наша
# свабода

№35(122) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

2 КРАСАВІКА 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Супраць застрашак журналістаў

*Article 19*, Сусветная кампанія за свабоду слова, даслала адкрыты ліст на імя А.Лукашэнкі і міністра ўнутраных справаў Беларусі У.Навумава. Нагодай стала затрыманне і збіццё міліцыянтамі на Дзень Волі ў Гродне фотажурналіста незалежнай газеты «Біржа інфармацыі» Зміцера Ягорава. Зараз, дарэчы, гэты 17-гадовы хлопец знаходзіцца з цяжкім сатрасеннем мозга.

У лісце гаворыцца, што «гэтае здарэнне ёсць не першым выпадкам затрымання і збіцця журналістаў міліцыяй у Беларусі падчас выканання сваіх прафесійных абавязкаў». У прыватнасці, згадваецца, 25 сакавіка летась, калі на «Маршы свабоды» былі арыштаваныя 36 беларускіх і замежных журналістаў.



*Article 19* нагадвае беларускім уладам пра «Закон аб друку і іншых СМІ», дзе гаворыцца, што журналісты маюць права прысутнічаць «на мітынгах і дэманстрацыях, на месцы іншых важных грамадскіх падзеяў і перадаваць адтуль інфармацыю». Зварот да А.Лукашэнкі і У.Навумава ўтрымлівае заклік «загадаць супрацоўнікам міліцыі спыніць атакі і запужванні журналістаў падчас выканання іхніх прафесійных абавязкаў» і «гарантаваць функцыянаванне свабоднай і незалежнай прэсы, асабліва напярэд дадні прэзідэнцкіх выбараў, якія маюць адбыцца сёлета».

**Алесь КАЗЛОЎСКІ**

## Пратэст супроць абмежаваньня свабоды слова

29 сакавіка 2001 быў асуджаны на 15 дзён адміністрацыйнага арышту старшыня БНФ спадар Вінцук Вячорка за ўдзел у арганізацыі сьвяткаваньня Дня Волі.

Мы, што падпісаліся пад гэтаю адозваю, упэўненыя, што суд вынес палітычна матываванае абвінавачваньне, якое супярэчыць аднаму з асноўных правоў асобы – праву на свабоду слова і мірных сходаў, а ёсьць сьведчаньнем недэмакратычнасьці сучаснага беларускага рэжыму.

Пратэстуем супроць перасьледу беларускіх грамадзянаў і заклікаем кампэтэнтныя органы да спыненьня перасьледу ўдзельнікаў дэманстрацый й скасаваньня выданых прысудаў.

***Ян Румл**, намесьнік старшыні Сэнату ЧР*
***Міхаэл Жантоўскі**, старшыня Камітэту па замежнай палітыцы Сэнату ЧР*
***Пётра Марэш**, старшыня Камітэту па адукацыі, навуцы, культуры і спорту Сойму ЧР*
***Марэк Бэнда**, намесьнік старшыні Канстытуцыйна-прававога камітэту Сойму ЧР*
***Томаш Пояр**, кіраўнік Фонду Чалавек у Нядолі*

# Батькин день – день смеха

*2 апреля Россия и Беларусь будут отмечать пятилетие своего союза. К этой годовщине готовятся тщательно. Посол Беларуси в России даже заявил, что одно рабочее место в Беларуси создает в России целых 14. Всё-таки, наверное, не случайно День единения двух народов совпадает с Днём смеха...*

Заявление посла Беларуси наполнено смыслом ровно в той же степени, что и сама идея Союзного государства. Даже если допустить, что его предположения имеют хотя бы отдаленное отношение к реальности, российским экономистам должно было бы стать дурно. В Беларуси примерно 6-7 млн. трудоспособного населения. Если они создавали хотя бы 10 рабочих мест в России, то Россия полностью зависела бы от Беларуси, поскольку российское трудоспособное население составляет около 70-80 млн. человек.

И так, в общем, всю дорогу. Белорусские чиновники почему-то упорно называют Союз взаимовыгодным, хотя на самом деле Россия получит после объединения страну с постоянным дефицитом бюджета, который правительство Лукашенко никак не может закрыть. Именно для этого Беларуси нужен стабилизационный кредит, который Александр Лукашенко выпросил у Владимира Путина.

Если верить послу Беларуси, скоро Минск вообще перестанет просить у России денег – вместо этого Лукашенко будет время от времени стращать Кремль закрытием МАЗа.

Российские чиновники поддакивают белорусским, что, мол, Союз – это хорошо. Но при этом почему-то три года тянули с объединением, а затем просто начали диктовать Минску новые условия, на которых Россия готова вступать в альянс с РБ. Условия же эти, на самом деле, призваны обеспечить не эффективность нового государства, а сохранность инвестиций России в Беларусь. Для чего, например, Москва требовала отмены валютных ограничений в РБ? По большому счёту, лишь для того, чтобы выданные кредиты не были вывезены за границу в результате утечки капитала. Ведь чем жёстче ограничения, тем меньше желания у бизнеса сохранять валюту в стране.

Минск, надо отметить, готов дружить с Кремлём и на более жёстких, чем пять лет назад, условиях. На прошлой неделе, например, белорусский Нацбанк отменил ограничения на покупку иностранной валюты для граждан (отныне они могут покупать больше $300 в день), а также позволил местным банкам приобретать иностранные ценные бумаги и совершать сделки с валютой на суммы больше чем $5 тыс. А Лукашенко дошёл до того, что лично одобрил деятельность белорусских предпринимателей – прежде он их иначе как «вшивыми блохами» не называл. ▶

*Окончание на стр.3*




● В Минске на улицах повесили транспоранты с напоминанием о причине праздника официальных кругов

# Власть мстит оппонентам режима

**Сергей ЦУРКО,**
**адвокат Минской городской коллегии адвокатов**

*НАША СВАБОДА друкуе фрагмент речи адвоката Сергея Цурко, которую суд Центрального района г. Минска не позволил произнести в защиту интересов В.Вячорки.*

Высокий суд!

... Исходя из закона, правонарушение, в котором обвинили В.Вячорку, является умышленным. Это значит, что он должен был сознавать противоправность своих действий и при этом желать их наступления. Здесь я касаюсь только части организации мероприятия. Да, В.Вячорка в ряду других граждан подал 7 марта заявку в Мингорисполком на проведение демонстрации, митинга и концерта 25 марта 2001 г.

16 марта Вячорка получил ответ горисполкома, из которого следовало, что «... вы маеце права правесці 25 сакавіка 2001 года з 15 да 18 у парку Дружбы народаў...». Это не моя описка. По существу заявки на проведение демонстрации, митинга и концерта горисполком дал такой ответ. Что это за ответ? Мой доверитель Вячорка посчитал, что он получил в руки официальный юридически значимый документ в виде решения Мингорисполкома. А как еще понимать подобного рода официальные бумаги? Конечно, получив это решение, В.Вячорка совместно с другими заявителями обжаловал данное решение горисполкома № 9-1721 от 16 марта 2001 года в суде Московского района г. Минска как незаконное и ущемляющее права граждан. Одновременно эта группа граждан подала в Мингорисполком встречное заявление, в котором они сняли с себя ответственность за руководство мероприятием и об отказе от проведения мероприятия. Здесь можно задать вопрос: «а на основе какого законодательного акта они поступили так? Отвечаю – на основе Закона РБ «О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании», статьи 5. ▶

*Окончание на стр.3*

## НАВІНЫ

■ **Паводле рашэння праўлення Нацыянальнага банка, знятыя абмежаванні на пакупцы насельніцтвам замежнай валюты ў абменных пунктах.** Раней яе можна было купіць у памеры, эквівалентным 300 доларам. Апрача таго, магчыма абʼём здзелак куплі-продажу на пазабіржавым валютным рынку цягам 1 месяца павялічыўся з 5 да 20 тысячаў долараў на аднаго рэзідэнта.

■ **Больш дзесятка маладзёжных арганізацыяў дамовіліся пра супольнае правядзенне штодзённых акцыяў «Беларусам – беларускае піва».** Акцыі будуць ладзіцца ў знак пратэсту супраць намераў расійскай «Балтыкі» захапіць беларускі піўны рынак. З 2 красавіка кожны дзень у 18.00 каля чыгуначнага вакзала моладзь будзе дэманстратыўна выліваць па 100 пляшак «Балтыкі» №9 (самае моцнае, па чутках, расейцы крэпяць яго спіртам).

■ **Бліжэйшым часам Японія выдаткуе Беларусі 1 мільён долараў на закупку і транспарціроўку ў нашу краіну лекаў і медычнага абсталявання.** Такое рашэнне прынятае 30 сакавіка ў Токіо, на прыйшоўшай там сустрэчы прадстаўнікоў беларускага і японскага міністэрстваў замежных справаў.

■ **Пастановай Савета міністраў і Нацбанка энерга-, газа- і нафтазабяспечваючыя арганізацыі вызваленыя ад абавязковага продажу валюты.** Як вядома, беларускія прадпрыемствы мусяць прадаваць на Беларускай валютнафондавай біржы 30% сродкаў у СКВ і расійскіх рублях. Гэтыя сумы павінны пайсці на пагашэнне крэдытаў для набыцця газу, электраэнергіі, нафты і нафтапрадуктаў.

■ **Па звестках міністэрства статыстыкі і аналізу, афіцыйны ўзровень беспрацоўя ў краіне дасягнуў 2,3% (сапраўднае беспрацоўе ў 4-5 разоў вышэй).** На 1 сакавіка зарэгістравана 104 тысячы беспрацоўных. Самы высокі ўзровень беспрацоўя на Віцебшчыне і Магілёўшчыне. У студзені гэтага года 2,2% ад агульнай колькасці работнікаў мелі няпоўны працоўны тыдзень.

■ **«Прыорбанк» пачынае 2 красавіка ажыццяўленне праекта па выпуску інтэрнэт-карткі плацежнай сістэмы *VISA*.** З дапамогай гэтай карткі можна рабіць плацяжы праз сусветнае сеціва і заказваць тавары па пошце і па тэлефоне.

## НАДВОР'Е






**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1315**



# Андропаўскі парадак

Кіраваць нашай краінай няпроста. Вымагае многа сілаў і нерваў: не слухаецца ніхто! Уяві сабе, такая плойма чынавенства, гэтулькі міліцыянтаў, гэбістаў, буйных і дробных гаспадарнікаў, жаўнераў, інтэлігенцыі, спартсменаў, рабацягаў, вучняў і студэнтаў... Кожнаму трэба аддаць загад, каб правільна зразумеў ды не схібіў. І пільнаваць, ці выконваюцца ўсе загады найлепшым чынам. Дык што мы бачым? Галавой яны паківаюць, у вочы ласкава заглянуць, а самі робяць абы-што. Аніяк не слухаюцца начальніка дзяржавы. Чаму? Вядома, Шушкевіч разбэсціў народ па загадзе заакіянскіх гаспадароў і ўсёй бэнэфаўскай прадажнай апазіцыі. Сволачы! Аляксандр Рыгоравіч хоча, каб было добра, а яны не хочуць. Праклятыя! Ён вельмі, вельмі, вельмі хоча, а яны вельмі, вельмі, вельмі не хочуць. Любяць занадта, каб было ўсё кепска і не па-людску. Сапсавалі народ. Напрыклад, быў загад, каб у краіне цэны не скакалі, каб тырчалі, як цвікі ў плоце, непарушна. Сурова было сказана па тэлебачанні, з папярэджаннем пра крымінальную адказнасць. Усе чулі і ўсе бачылі. Дык хіба ж Аляксандр Рыгоравіч вінаваты, што міністры, загадчыкі складоў ды дырэктары крамаў не слухаюцца?

Я вось што скажу: трэба людзей біць проста ў морду! Даваць з усяе сілы ў рыла! Але, каб гэта было па законе, неабходна перш такое пакаранне запісаць не толькі ў адміністрацыйны кодэкс, але і ў Канстытуцыю. Хай на рэферэндуме народ за гэта прагаласуе. Хай Аляксандр Рыгоравіч атрымае законнае права біць кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь па мордзе столькі, колькі патрэбна для паляпшэння эфектыўнасці эканомікі. Вось тады будзе ўсё выдатна і мы зажывём, як сыр у масле. Некаторыя дыпламаваныя юрысты прапануюць абмежавацца лягчэйшымі мерамі. Напрыклад, плюнуць разоў з дзесяць проста ў вочы. Але вопыт паказвае, што такое пакаранне падначаленыя налаўчыліся цярпець і адпаведнай карысці не будзе. Толькі біць!

Вядома, сам начальнік дзяржавы ўсюды не паспее (гэтулькі ў нас лайдакоў!), яму б накіраваць адпаведным чынам сваіх міністраў, сенатараў ды генералаў. Таму трэба даць законна афармленае права замяшчаць Аляксандра Рыгоравіча іншым выпрабаваным і надзейным людзям, асабіста адданым галоўнай асобе дзяржавы. Уяві, нейкі завод спыніўся, бо не купляюць яго прадукцыю. Яна ржавее на складах, а зарплату рабочым няма за што плаціць. Людзі кладуць зубы на паліцу і лічаць, што вінаваты начальнік дзяржавы. Ажно не! Неадкладна прыязджае чалавек з правамі самага галоўнага кіраўніка, выклікае ў кабінет дырэктара, лупіць яму морду на горкі яблык і дакладвае персанальна Аляксандру Рыгоравічу. І ўсё! Праблемы, лічы, няма. Уяві, як той дырэктар забегае, як будзе старацца, завіхацца і клапаціцца. Які эфект будзе! Андропаўская дысцыпліна! Хай тады Амерыка пазайздросціць.

**Аляксандар ДУБРАВІН**

# Настаўнікі ў тупіку

5 красавіка прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі збірае прэзідыум, каб вызначыць тактыку далейшай барацьбы за права на дастойную аплату працы. Канстытуцыйны суд фактычна ўхіліўся ад адказу на пытанне, які з дзяржаўных інстытутаў можа выступаць адказчыкам у калектыўнай працоўнай спрэчцы з прафсаюзам.

Леташняй восенню Мінскі гарадскі прафкам работнікаў адукацыі ініцыяваў збор подпісаў з патрабаваннем да ўлады давесці ўзровень заробкаў у галіне да сярэдняй зарплаты ў прамысловасці. 6 снежня мінулага года патрабаванне, пад якім падпісаліся звыш 180 тысячаў настаўнікаў з усёй Беларусі, было перададзенае прэм'ер-міністру У.Ярмошыну. На адпіску Саўміна прафсаюз адукацыі вырашыў распачаць з ім калектыўную працоўную спрэчку. Аднак урад адмовіўся выступаць адказчыкам. Сёлета 3 сакавіка прафсаюз звярнуўся ў Канстытуцыйны суд з просьбай назваць наймальніка, з якім прафсаюз мог бы ўступіць у калектыўную працоўную спрэчку на рэспубліканскім узроўні, але адказу з Канстытуцыйнага суда прафсаюз па сутнасці не атрымаў.

«Наш зварот разгледжаны толькі на сакратарыяце Канстытуцыйнага суда і падпісаны начальнікам сакратарыята. Незразумела: на ліст аднаго грамадзяніна па прафсаюзных узносах яны змаглі сабрацца і разгледзець, а зварот прафсаюза такой вялікай галіны, як адукацыя, ды яшчэ падмацаваны 180 тысячамі подпісаў, Канстытуцыйны суд не змог разгледзець», – заявіла старшыня прафсаюзаў работнікаў адукацыі і навукі Тамара Чобатава.

Яна мае намер прасіць аўдыенцыі ў старшыні Канстытуцыйнага суда Рыгора Васілевіча. Невядома, праўда, пагодзіцца ён сустрэцца з лідэрам прафсаюза, калі не, то ў настаўнікаў застанецца адно выйсце – страйкаваць.

**Юрый ДУБІНА**

**ФОТАФАКТ**



Фота IREX/ProMedia

● Народ і ганаровая рота — розны накірунак

# Адстраляліся

29 сакавіка на палігоне «Палескі» ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці ўпершыню на тэрыторыі рэспублікі былі праведзеныя стрэльбы па вучэбных цэлях зенітных ракетных комплексаў малой далёкасці С-125 «Пячора».

Як паведамілі ў прэс-службе міністэрства абароны Беларусі, пастаўленыя задачы дывізіёны зенітных ракетных часцей з Оршы і Брэста выканалі паспяхова. Пра нейкія падрабязнасці правядзення вучэнняў пакуль не паведамляецца. Але плануецца, што 3 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры пра стрэльбы раскажа камандуючы Войскамі супрацьпаветранай абароны рэспублікі генерал-лейтэнант Валерый Кастэнка, які кіраваў вучэннямі. За ходам стрэльбаў назіраў новы міністр абароны генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў, які спецыяльна на некалькі гадзінаў прылятаў з Мінска на месца правядзення вучэнняў.

Нагадаем, што раней палігон «Палескі» выкарыстоўваўся толькі ў інтарэсах авіяцыі. У апошнія гады на ім быў праведзены вялікі аб'ём розных інжынерных работ, што дазволіла яго выкарыстоўваць і для патрэбаў Войскаў супрацьпаветранай абароны краіны.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

# ФПБ ратуецца ад самадурства ўладаў

Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская падала заяўку на ўступленне ў Міжнародную Канфедэрацыю свабодных прафсаюзаў, ратуючыся ад самадурства беларускіх уладаў, якія абралі курс на раскол ФПБ. 5-6 красавіка на падвядзенне вынікаў разгляду «беларускага пытання» (леташняй скаргі трох прафсаюзаў ФПБ і Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў) у Мінск прыедзе прадстаўнічая дэлегацыя Міжнароднай арганізацыі працы (МАП), у склад якой уваходзіць і Генеральны сакратар МКСП Біл Джордан. Падчас візіту місіі МАП у Мінск леташнім кастрычнікам Б.Джордан жорстка крытыкаваў «бесперапынныя спробы з боку беларускіх дзяржаўных органаў паставіць пад кантроль дзейнасць прафсаюзаў краіны, абмежаваць іх правы і свабоды». Ужо тады Біл Джордан заяўляў, што паўторныя спробы ціску на прафсаюзы з боку ўладаў могуць пацягнуць істотныя эканамічныя санкцыі ад краінаў Еўрапейскага Саюза. МКСП мае рычагі ўплыву на ўрады ЕС, падкрэсліў мінулай восенню Б.Джордан.

«Мы спадзяёмся ўступіць у Міжнародную Канфедэрацыю свабодных прафсаюзаў. Да нас адносяцца там нармальна. У МКСП ужо прызналі, што мы не настолькі дзяржаўныя, афіцыйныя прафсаюзы. 5-6 красавіка ў Мінску будзе Генеральны сакратар МКСП Біл Джордан, і мы працягнем кансультацыі па гэтай тэме», — заявіў старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык.

**Рыгор БУЯН**

# У хвасце СНД

Беларусь па-ранейшаму мае адзін з горшых паказчыкаў сярод дзяржаваў Садружнасці па росце прамысловай вытворчасці. Паводле звестак Міждзяржаўнага статыстычнага камітэта СНД, па выніках студзеня-лютага 2001 года, гэты паказчык у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам склаў у краіне ўсяго 1,8%. З улікам таго, што звестак па Узбекістане і Туркменіі няма, больш горшыя, чым у Беларусі, справы толькі ў Грузіі, дзе адзначана падзенне росту прамысловай вытворчасці на 13,5%.

Разам з тым найбольшы рост прамысловай вытворчасці сярод краінаў СНД у студзені-лютым 2001 года ў параўнанні з тым жа перыядам 2000 года зафіксаваны ва Украіне, дзе ён склаў 16,7%. Затым ідуць Кіргізія (15,4%), Таджыкістан (12,9%), Арменія (11,4%), Казахстан (9,8%), Азербайджан (6,6%), Малдова (4,5%) і Расія (3,1%).

Варта нагадаць, што па выніках студзеня 2001 года рост прамысловай вытворчасці ў Беларусі склаў 3,7%, што было таксама адным з горшых паказчыкаў у СНД.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

# Падарункі дзяржавы Жыровіцкаму манастыру

З рэспубліканскай уласнасці ва ўласнасць Жыровіцкага Свята-Успенскага мужчынскага манастыра і Мінскай духоўнай семінарыі бязвыплатна перададзены будынак вучэбнага корпуса Жыровіцкага аграрна-тэхнічнага каледжа, размешчанага ў пасёлку Жыровічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Апрача таго, урадавая пастанова прадугледжвае перадачу манастыру жывёлагадоўчай фермы Жыровіцкай занальнай дзяржаўнай сортавыпрабавальнай станцыі, размешчанай у вёсцы Прусаўшчына Слонімскага раёна. Перадача-прыёмка будынка і жывёлагадоўчай фермы павінна быць зробленая да 1 красавіка 2001 года.

Нагадаем, што восенню 2000 года пастановай урада манастыру быў перададзены будынак былога інтэрната каледжа. Перадача Мінскай духоўнай семінарыі карпусоў каледжа (раней — Жыровіцкага сельскагаспадарчага тэхнікума, які размяшчаўся ў гістарычных карпусах семінарыі) пачалася яшчэ ў 1989 годзе. Цяпер гэты працэс завяршаецца перадачай будынка вучэбнага корпуса.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

# Вайна дэкрэту № 8

Сем грамадскіх арганізацыяў з падачы «НЕКС СТОП – НЬЮ ЛАЙФ» «Экадома» распачалі шырокамаштабную кампанію за адмену дэкрэта № 8. Гэты дэкрэт уступае ў сілу з 16 красавіка і фактычна ставіць крыж на дзейнасці «трэцяга сектара».

На думку ініцыятараў кампаніі, з 16 красавіка «трэці сектар» чакае «поўная залежнасць» ад Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе, «прыпыненні дзеючых сацыяльных праектаў», «верагоднасць замарожвання банкаўскіх рахункаў», «устанаўленне больш жорсткіх эканамічных і адміністратыўных санкцыяў для арганізацыяў і іх кіраўнікоў, магчымасць ліквідацыі нават за аднаразовае парушэнне дэкрэта».

Перад рэальнай пагрозай знішчэння «трэцяга сектара» «НЕКС СТОП – НЬЮ ЛАЙФ» «Экадома» пры падтрымцы Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў абвясцілі пра пачатак дыялога з беларускімі ўладамі, мэта якога адмяніць дэкрэт № 8. У рамках акцыі супраць дэкрэта з 28 сакавіка па 7 красавіка грамадзяне, якім аказалі дапамогу арганізацыі «трэцяга сектара», мусяць закідаць прэзідэнцкую адміністрацыю, палату прадстаўнікоў і Канстытуцыйны суд патрабаваннямі аб адмене дэкрэта, з 2 па 5 красавіка самі арганізацыі мусяць выставіць такое ж патрабаванне да ўладаў.

Арганізатары акцыі плануюць дабіцца парламенцкіх слуханняў па дэкрэце № 8 яшчэ да яго ўступлення ў сілу.

# Чакаюцца новыя арышты за Дзень Волі

Паводле інфармацыі грамадскай ініцыятывы «Хартыя'97», за ўдзел у мітынгу і шэсці апазіцыі ў Дзень Волі, 25 сакавіка, бліжэйшым часам могуць быць затрыманыя яшчэ некалькі арганізатараў гэтай акцыі — Віктар Івашкевіч, Вячаслаў Сіўчык, Аляксей Кароль, Цімафей Дранчук, Уладзімір Кішкурна, Пётр Голасаў і Сяргей Міхноў.

Таксама паведамляецца, што ўсім ім можа пагражаць не менш за 10 сутак арышту. На іх ужо нібыта заведзеныя адміністрацыйныя справы па артыкулах Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях 167 частка 1 і 167 частка 2, а ў справах ёсць нават іх фотаздымкі, зробленыя падчас акцыі. Апазіцыйныя актывісты на гэтых здымках бачны на фоне міліцэйскіх кардонаў або ў той час, калі прарываліся праз іх.

Паводле «Хартыі», улады зацікаўленыя, каб суды прайшлі як мага хутчэй, паколькі калі вышэйпералічаныя палітыкі не будуць знойдзеныя на працягу двух месяцаў, то, згодна з законам, заведзеныя на іх справы закрываюцца.

**Андрэй ВІШНЯВЕЦКІ**

# Металісты «жаўцеюць»

28 сакавіка на Рэчыцкім метызным заводзе прайшла ўстаноўчая канферэнцыя «жоўтай» прафарганізацыі «Метызнік». Каля 100 чалавек выйшлі з прафкама прафсаюза металістаў і стварылі прафкам металургаў.

Не сакрэт, што рэчыцкія металургі пайшлі па шляху жодзінскіх калегаў: 2 сакавіка па ўказцы прэзідэнцкай адміністрацыі на Беларускім металургічным заводзе 14 тысячаў былых сябраў прафсаюза металістаў зладзілі «ўласны прафсаюз металургаў». З'яўленне новага прафсаюза ў Рэчыцы тлумачаць цеснымі сувязямі з Беларускім металургічным заводам.

Сапраўдныя прычыны крыюцца ў іншым. Па словах старшыні ФПБ Уладзіміра Ганчарыка, кіраўніцтва БМЗ прыгразіла Рэчыцкаму метызнаму заводу не купляць шрубы, балты, гайкі, якія вырабляе прадпрыемства, калі не будзе створаны «жоўты» прафсаюз.

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

# Папаўся на перформансе

27 сакавіка падчас зладжанага каля будынка Беларускага тэлебачання на Макаёнка, 9 у Мінску перформанса «Мабілізацыя на выбары» міліцыя затрымала лідэра незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі Паўла Севярынца. Севярынец разам з 20 сябрамі зладзілі перформанс. У пазамінулую суботу БТ разразілася абвінавачаннямі на адрас Севярынца і іншых маладафронтаўцаў аб ухіленні ад службы ў войску. Таму перформанс стаўся адказам на абвінавачанні: каля 20 чалавек у вайсковай форме (хто ў партызанскім адзенні, хто ва уніформе войскаў *NATO*) уручылі праз ахоўнікаў «мабілізацыйныя павесткі» «акулам пяра і мікрафона» з Беларускага тэлебачання: намеснікам старшыні Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі больш вядомаму як вядучы «Рэзананса» Аляксандру Зімоўскаму і Рыгору Рыбакову, Юрыю Казіятку, аўтару «Тайных пружин политики» Юрыю Азаронку за «ўхіленне ад правядзення мабілізацыйнай кампаніі».

Тут жа пад'ехалі два аўтобусы з АМАПам, з'явілася міліцыя. П.Севярынца адвезлі ў Першамайскі РАУС, адкуль прыкладна а палове пятай павезлі ў Цэнтральны суд.

Самае цікавае ў тым, што папаўся Павел Севярынец на бяскрыўдным перформансе, а судзіць яго будуць за арганізацыю альбо паўторны ўдзел у несанкцыяваным шэсці – гаворка ідзе пра Дзень Волі 25 сакавіка.

Паколькі Павел Севярынец заявіў хадайніцтва аб прыцягненні да працэсу адваката, суд над ім перанесены на 5 красавіка.

**Віктар ТРАСЯНКОЎ**

# Вальналюбства караецца

Увесь мінулы тыдзень у Цэнтральным раённым судзе Мінска ішлі суды над удзельнікамі святкавання Дня Волі. Гэты цяжар лёг на плечы суддзі Наталлі Вайцяховіч, якой давялося судзіць людзей, уся віна каторых толькі ў тым, што яны хочуць жыць у вольнай Беларусі. Трэба нагадаць, што ў Дзень Волі былі затрыманыя 15 чалавек, 4 з іх адпусцілі тым жа днём, а астатнія ноч правялі ў спецпрыёмніку-размеркавальніку МУС на Акрэсціна.

26 сакавіка Наталля Вайцяховіч пачала свой працоўны дзень з таго, што дала 10 сутак адміністратыўнага арышту Дз. Чабарэнку і штраф дэпутату Вярхоўнага Савета 13 склікання Л.Грaзновай у памеры 100 долараў. Дарэчы, Л.Гразнова была адзінай жанчынай, якую змясцілі на ноч у акрэсцінскі спецпрыёмнік-размеркавальнік.

27 сакавіка Н.Вайцяховіч аштрафавала яшчэ двух удзельнікаў акцыі 25 сакавіка — стаматолага са Слуцкага раёна Э.Новік і студэнта медыцынскай вучэльні М.Куксо. Кожны з іх за «ўдзел у несанкцыяваным шэсці» атрымаў штраф 20 мінімальных заробкаў. Абое былі затрыманыя 25 сакавіка каля стэлы «Горад-герой Мінск».

Наступным днём Наталля Вайцяховіч прысудзіла штраф у 20 «мінімалак» М.Валочку, які гэтаксама быў затрыманы каля стэлы. Жыхару Ліды Дз.Кузьміцкаму пашанцавала крыху болей – ён атрымаў толькі папярэджанне.

**Рыгор БУЯН**

# Власть мстит оппонентам режима

**28 – 29 марта 2001 года в суде состоялся судебный процесс над лидером БНФ В. Вячорка, принимавшем участие в праздновании 83-й годовщины БНР. Вячорке инкриминировалось то, что, «являясь одним из организаторов митинга-шествия, участвовал в запрещенном митинге-шествии.., организовывал и управлял шествием граждан».**

**Судья Наталья Вайтехович не предоставила возможности В.Вячорке выступить в суде в свою защиту.**

*Окончание. Начало на стр.1*

Из смысла данной статьи следует, что если гражданин, взявший на себя в письменной форме обязательство по обеспечению организации мероприятия, также письменно может и отказаться от взятых обязательств.

Таким образом, если бы суд руководствовался законом, то уже этого обстоятельства достаточно было бы для исключения признака организации из состава правонарушения. Тем более, что показания одного из свидетелей подтвердили отсутствие у Вячорки признаков организации. Но всегда найдутся свидетели, которые дадут показания нужные. Таких свидетелей не волнует, что в их показаниях нет конкретики и конкретных показаний в отношении Вячорки, а есть общие рассуждения и мысли о роли Вячорки. И, оказывается, таких показаний достаточно для постановления решения о привлечении к ответственности.

Фактически нет доказательств вины В.Вячорки в организации мероприятия 25 марта и его руководстве. Вопрос участия я не поднимаю, так как Вячорка факт участия в мероприятии признал. Но есть ведь разница для юридической оценки его действий: участие и организация и руководство.

Еще один удручающий факт — грубейшее нарушение судом Центрального района права гражданина, в нашем случае В.Вячорки, пользоваться в судебном заседании родным языком, т. е. белорусским, право иметь переводчика на родной язык. На заявленное Вячоркой в суде ходатайство и поддержанное защитой право вести судебное заседание на белорусском языке или приглашении переводчика суд ответил отказом. И только настойчивость участников процесса при повторном ходатайстве заставило судью удовлетворить ходатайство о приглашении в судебное заседание переводчика. Здесь хочу отметить беспрецедентность при разрешении подобного ходатайства. Судья объявила перерыв и ушла в совещательную комнату для разрешения ходатайства. Данный вопрос судьей решался целый час, вместо того, чтобы разрешить данное ходатайство, не покидая судебного зала, в течение 1-2 секунд, так как право пользования родным языком – это одно из основных конституционных прав каждого гражданина РБ. Данный шаг суда – это вопрос для всех граждан – в белорусском государстве Республике Беларусь для того чтобы пользоваться не просто родным языком, а еще и государственным, требуется суду уходить в совещательную комнату и разрешать его в течение часа. Мои ощущения в тот момент — что я нахожусь не в суде Республики Беларусь.



Фота Ул.ШЛАПАКА

**ПЦ «Вясна»**

# Беларусы «асядаюць» на Захадзе

*На адыходзячым тыдні стала вядома, што адразу трое грамадзянаў Беларусі атрымалі палітычны прытулак на Захадзе: былы студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Глеб Сушкевіч атрымаў палітычны прытулак у Польшчы, гомельскі праваабаронца Яўген Мурашка «асеў» у Германіі, а былы суддзя Ленінскага раёна Бабруйска Юрый Сушкоў атрымаў прытулак у Італіі.*

Былы студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Глеб Сушкевіч набыў тэрытарыяльнае прыстанішча ў суседняй Польшчы 29 сакавіка. Пасля пазалеташняга «Маршу Свабоды» ён быў арыштаваны і некалькі дзён правёў за кратамі, пасля чаго адміністрацыя універсітэта выключыла Г.Сушкевіча з альма матэр. Глеб Сушкевіч мусіў з'ехаць з Беларусі. Па ягоных словах, бліжэйшым тыднем палітычны прытулак у Польшчы атрымае Глеб Догель, а крыху пазней – Антон Лазараў ды Андрэй Валабуеў – усе яны пацярпелі пасля «Маршу Свабоды» ў 1999 годзе.

Я.Мурашка з'ехаў з Беларусі падчас чарговай спробы гомельскіх уладаў прыцягнуць праваабаронцу да судовай адказнасці за адзін са шматлікіх пікетаў. За акцыі пратэсту Я.Мурашка неаднаразова прыцягваўся як да адміністрацыйнай, так і да крымінальнай адказнасці. У чэрвені 1999 года за арганізацыю сустрэчы са зніклым праз тры месяцы старшынём ЦВК Віктарам Ганчаром быў асуджаны на 1 год зняволення з адтэрміноўкай пакарання на 1 год. Летась падчас «Чарнобыльскага шляху-2000» прайшоўся па Гомелі ў чорнай накідцы і з плакатам на шыі «Божа, навошта нам і Чарнобыль, і Лукашэнка?», за што супраць Я.Мурашкі была распачатая чарговая крымінальная справа за неаднаразовае правядзенне несанкцыяваных пікетаў. Пад пераследам аказалася і жонка праваабаронцы – Галіна Арцёменка.

Рабочы «Гомсельмаша» Я.Мурашка трапіў пад скарачэнне. Пэўны час Я.Мурашка ўзначальваў Гомельскае аддзяленне БХК, стварыў дзве арганізацыі: «Абарона правоў чалавека» і «Саюз беспрацоўных», якія ўжо ліквідаваныя праз суд. Цяпер праваабаронца знаходзіцца ў Баварыі, у невялікім гарадку Эгальцбах, куды думае перавезці ўсю сям'ю. Як перадае «Радыё Свабода», Я.Мурашка плануе стварыць «беларускую дыяспару і быць карысным тым, хто зведаў пераслед у Беларусі».

Суддзя Юрый Сушкоў прызначаны на гэтую пасаду А.Лукашэнкам. Першую справу ён правёў так, як загадалі «зверху», і пакараў невінаватых; за год працы Ю.Сушкоў тройчы апраўдваў тых, каго загадвалі «засудзіць». Перад выездам у Германію (менавіта там спачатку меркаваў папрасіць палітычны прытулак экс-суддзя) Ю.Сушкоў у праваабарончым цэнтры «Вясна» паведаміў журналістам, што «ў нас прысуды выносяць тыя міліцыянты, якія арыштоўваюць людзей, і тыя дзяржаўныя асобы, якія аддаюць загады».

Увесну 1999 года Ю.Сушкоў вяртаўся на Беларусь – тады якраз апазіцыйны Вярхоўны Савет і ЦВК з Віктарам Ганчаром ладзілі апазіцыйныя прэзідэнцкія выбары. Але надзеі на лепшае не апраўдаліся.

Праз шэсць месяцаў разгляду дакументаў сёлета, 16 студзеня, Юрыя Сушкова прызналі палітычным уцекачом, надаўшы яму адпаведны статус.

Цяпер былы суддзя знаходзіцца ў Падуі, шукае працу. Апрача таго, ён спрабуе арганізаваць дэмакратычны саюз беларусаў у Італіі.

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

# Антрапалогія а-ля Лукашэнка

*29 сакавіка ў Гродне на пасадзе старшыні аблвыканкама быў зацверджаны Уладзімір Саўчанка. Для гэтага збіралася пазачарговая сесія аблсавета. Зрэшты, адпаведны ўказ быў ужо падпісаны днём раней, і дэпутатам трэба было толькі падняць рукі пры галасаванні.*

Аляксандр Лукашэнка сказаў дэпутатам, што ахвотных было шмат, усіх іх спраўдзілі. Але па некаторых узніклі пытанні, і зараз імі зоймуцца кантрольныя органы ды пракуратура. Чвэрць кіраўнікоў, на ягоную думку, увогуле не хочуць працаваць, а «ляжаць на пасадах і ніякімі канечнасцямі не выяўляюць жыцця». З імі таксама, маўляў, трэба разбірацца.

У.Саўчанка нарадзіўся на Магілёўшчыне ў 1952 годзе, закончыў сельгасакадэмію ў Горках. Прысланы ў Гродна на пасаду першага намесніка старшыні аблвыканкама быў улетку 1999 г. Раней кіраваў калгасам, райвыканкамам і працаваў у Магілёўскім аблвыканкаме. Пасля смерці 4 лютага кіраўніка Гродзенскай вобласці А.Дубко выконваў ягоныя абавязкі.

На сесіі А.Лукашэнка прачытаў прысутным дэпутатам і чынавенству лекцыю на тэму «свой-чужы». Ён гаварыў аб адрознасцях паміж усходнікамі і заходнікамі і аб агульных асаблівасцях усіх беларусаў. Маўляў, не дай Бог, хтосьці будзе гуляць на гэтых асаблівасцях і пашкодзіць «адзінай і цэласнай», «злепленай» краіне. Развагі сталічнага госця развіваліся ў наступным накірунку. Так, ёсць свой менталітэт і ў заходнікаў, і ва ўсходнікаў, у католікоў і праваслаўных, а таксама свае асаблівасці — у палякаў, украінцаў, рускіх і беларусаў. І ўсё гэта залежыць ад «гаспадзя Бога» і ад прыроды.

Адначасова Лукашэнка не збіраецца глядзець, у каго якая кроў, і спраўджаць: чысты хтосьці беларус ці з дамешкам нейкай крыві. Беларусы, паводле яго, узялі ад рускіх іхні «жалезны характар», ад палякаў — «ганарлівасць або гонар», ад украінцаў — хітрынку, а ад габрэяў — «мазгі». Карацей, так атрымаліся беларусы. Праўда, далей Лукашэнка выказаўся аб чысціні нацыі, нагадаўшы, што беларусы — «самая чыстая, некранутая нацыя», паколькі манголы да нас не дайшлі. Брава! Аказваецца, Аляксандр Рыгоравіч чытае не толькі савецкіх і царскіх гісторыкаў.

А высновай усяго сказанага было: «выкіньце гэта з галавы», бо «ўсе мы — свае». Карацей, аднолькавыя, адным мірам мазаныя.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**




# Батькин день – день смеха

*Окончание. Начало на стр.1*

Правда, по мнению белорусского президента, «предприниматели должны конструктивно работать с властью» – то есть, видимо, платить не только налоги, но и дополнительные контрибуции в пользу государства. Собственно, именно по такой схеме выстроены отношения бизнеса и власти в нынешней Беларуси. Так что повода для иллюзий насчёт белорусского либерализма всё-таки нет.

Впрочем, пока что Россия и Беларусь движутся к своему слиянию. Главный вопрос – создание единого эмиссионного центра и введение единой валюты. Для этого необходимы изменения конституции и в РФ, и в РБ. Ни российские, ни белорусские политики не хотят этого, поскольку придётся проводить референдумы, а это дело дорогостоящее и с неясным исходом.

Разумеется, что это вопросы далекого будущего. Однако Лукашенко шум вокруг процесса объединения нужен сейчас, поскольку осенью 2001 года в Беларуси будут президентские выборы. Разумеется, что нынешний президент хочет в них победить и старается поднять свое реноме в глазах населения собственной республики. Иногда даже создается впечатление, что весь Союз двух государств задуман для того, чтобы помочь Лукашенко выигрывать выборы. Иначе посол Беларуси в Москве не осмелился бы публично приписывать Беларуси заслуги в создании рабочих мест для России

**Андрей СТЕПАНОВ,**
**Ольга ПРОСКУРИНА**
**Gazeta. ru**

# Як вершыцца несправядлівы суд

Да адміністратыўнага арышту на 15 сутак за «арганізацыю несанкцыяванага шэсця» ў Дзень Волі 25 сакавіка прыгавораны старшыня БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка. Вечарам 29 сакавіка адразу з залы Цэнтральнага суда лідэра БНФ у суправаджэнні намесніка начальніка Цэнтральнага РАУС сп.Барсукова адвезлі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік МУС па вуліцы Акрэсціна для адбыцця пакарання.

Суд над В.Вячоркам, каторага затрымалі 25 сакавіка на вуліцы Арлоўскай і выпусцілі толькі познім вечарам, пачаўся ў Цэнтральным райсудзе наступным днём, 26 сакавіка. Але судовае паседжанне спачатку было перанесенае на 28, а затым і на 29 сакавіка.

У адпаведнасці з заяўленым раней хадайніцтвам судовы працэс праходзіў у прысутнасці перакладчыка. Аднак з-за заяўленых падчас апошняга судовага паседжання хадайніцтваў: далучыць да справы адказ Мінгарвыканкама, у якім не ўказаны ніякі маршрут акцыі 25 сакавіка, па якім дазвалялася б правесці шэсце, і адмову заяўнікаў ад узятых на сябе абавязкаў у сувязі з адмовай у святкаванні 83-ай гадавіны абвяшчэння БНР па заяўленым маршруце; выклікаць у якасці сведкаў (намесніка старшыні Мінгарвыканкама Міхаіла Пятрушына і аднаго з кіраўнікоў сталічнай міліцыі падпалкоўніка Саланца) – суддзя Наталля Вайцяховіч абвесціла судовае рашэнне ў канцы працоўнага дня. Адхіліўшы ўсе хадайніцтвы, Н.Вайцяховіч абвесціла, што Вінцук Вячорка арыштаваны на 15 сутак за арганізацыю несанкцыяванага шэсця 25 сакавіка. На заўвагі адваката Сяргея Цурко пра парушэнне нормаў судавытворчасці суддзя не адрэагавала і пасля зачытвання абвінавачання сышла з залы.

Сябра юрыдычнай камісіі БНФ Уладзімір Лабковіч пасля суда заявіў: «Суддзя груба парушыла заканадаўства тым, што не дала слова адвакату і парушыла правы Вінцука Вячоркі на юрыдычную дапамогу, на карыстанне паслугамі адваката. Яна паказала і сваю некампетэнтнасць, і сваю свядомую пагарду законамі».

Перад адпраўкай у спецпрыёмнік-размеркавальнік сам В.Вячорка назваў судовы працэс «прававым бязмежжам». «Гэта бязмежжа, нахабнае парушэнне працэдуры, нахабнае парушэнне маіх правоў і права адваката выказвацца. Усе паўзы і затрымкі якія адбываліся падчас суда, — сведчанне таго, што суддзя атрымлівала беспасярэдніцкія ўказанні ад сённяшняга палітычнага кіраўніцтва Беларусі».

**Рыгор БУЯН**

# ФПБ падлягае ліквідацыі

5-6 красавіка на рэспубліканскай нарадзе, на якую чакаюцца дэлегацыя Міжнароднай арганізацыі працы і нацыянальных прафдэлегацыяў, Федэрацыя прафсаюзаў падвядзе вынікі разгляду «беларускага пытання» ў МАП і вызначыцца са сваімі далейшымі дзеяннямі. 8-9 сакавіка Камітэт па свабодзе асацыяцыяў МАП па разглядзе скаргі беларускіх прафсаюзаў, атрыманых мінулым летам, зрабіў папярэдняе заключэнне. Камітэт пацвердзіў наяўнасць ціску з боку беларускіх уладаў на прафсаюзы і «настойліва просіць урад прыняць неабходныя меры для забеспячэння таго, каб такое ўмяшальніцтва далей не паўтаралася». Апошняе слова ў вырашэнні «беларускага пытання» засталося за Адміністратыўным саветам МАП – вышэйшым выканаўчым органам арганізацыі, які дзейнічае паміж Генеральнымі Канферэнцыямі. Калі беларускія ўлады праігнаруюць рэкамендацыі МАП, то ўжо ў ліпені гэтага года Камітэт па прымяненні канвенцыяў і рэкамендацыяў МАП на Міжнароднай канферэнцыі працы пры ўдзеле 170 краінаў свету зноў вернецца да «беларускага пытання». І тады МАП можа ўвесці «спецыяльны параграф» для Беларусі — гэта будзе азначаць далейшую палітычную і эканамічную ізаляцыю.

Дарэчы, нарада 5-6 сакавіка пройдзе за кошт МАП, што – па дэкрэту А.Лукашэнкі №8 – «пагражае закрыццём Федэрацыі прафсаюзаў». Такую заяву 28 сакавіка на прэс-канферэнцыі зрабіў першы намеснік старшыні ФПБ Франц Вітко. Паводле яго, асноўная «мэта дэкрэта — паставіць пад татальны кантроль усе тыя стасункі, якія мы маем з замежнымі прафсаюзнымі цэнтрамі, і ўвогуле, паставіць пад татальны кантроль тое, што робіцца ў кірунку вонкавых прафсаюзных зносінаў. Я кажу аб прафсаюзах таму, што гэта мне больш баліць, а ўвогуле гэта датычыць усіх грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў». Нават паездка прадстаўніка Федэрацыі за мяжу па запрашэнні партнёраў можа стаць падставаю для ліквідацыі ФПБ, калі камандзіраванаму прымаючы бок выдасць нейкую суму на кішэнныя расходы, а нехта, груба кажучы, «настукае» нашым доблесным органам. Добра яшчэ, што ФПБ «не абвінавачвалі ў супрацоўніцтве з замежнымі спецслужбамі». «Але дэкрэт дае магчымасць у кожным бачыць агента нацыянальнай бяспекі чужой краіны», — песімістычна падкрэсліў Франц Вітко.

Прафсаюзны функцыянер гаворыць пра рашэнне ўладаў «рэфармаваць» прафсаюзы. «Рэфармаванне ініцыявалі ўлады, а не самі прафсаюзы, якія, згодна са Статутам, з'яўляюцца незалежнай арганізацыяй і любое адміністратыўнае ўмяшальніцтва ў дзейнасць прафсаюзаў увогуле забаронена», — сказаў Ф.Вітко, падкрэсліўшы, што мэта рэфармавання – «разбіць, раздрабіць адзінае цэлае (ФПБ. – Рэд.) на кавалкі».

**Рыгор БУЙНІЦКІ**

